


*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*

# КАРДОН

**№9 красавік 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

# 14 гадоў ідзе Беларусь Чарнобыльскім шляхам...

## СЛЕД БЯДЫ

Пустыя хаты. Сіратліва ніва
Глядзіць услед павевам ветравым.
Няўцешны жураўліны крык тужліва
Нясецца над прасторам векавым.

Чакае поле залатога зерня,
Чакае працавітых, шчырых рук.
Але людзей сюды ўжо не вернеш,
У хатах павуцінне тчэ павук.

Сава ўскрыкне, каня загалосіць,
Ранет саспелы ў садзе ападзе.
Ніхто траву духмяную не скосіць, -
Уся віна ў нябачнай той бядзе.

Квітнеючага саду пах духмяны
Мне не адчуць. Вакол адзін палын.
Любоўю сына шчыра закаханы
Я ў прыгажосць пакінутых мясцін

*Уладзімір Асокін*



Прайшло 14 гадоў пасля катастрофы, якая адбылася 26 красавіка 1986 года. Але маштабы аварыі і яе наступствы настолькі вялікія, што час яшчэ не высвеціў усю глыбіню трагедыі. Зразумела толькі, што гэта і наша агульнанацыянальная трагедыя, таму што закранае інтарэсы ўсіх жыхароў рэспублікі, але адначасова гэта трагедыя ўсяго чалавецтва.

Чаго толькі не перажыла шматпакутная Беларусь: шматлікія войны, рэвалюцыю, калектывізацыю, сталінскія лагеры і фашызм. Але гэту нябачную бяду ні з чым не параўнаць. У першыя шэсць дзён выкід радыёнуклідаў з пашкоджанага рэактара склаў каля 15 мільёнаў кюры.Ёдная атака абрынулася на шчытавідку соцен тысяч чалавек. За адну гадзіну дарослы атрымліваў некалькі гадавых дапусцімых норм апраменьвання, для дзяцей такіх норм няма, яны пацярпелі больш.

Большая частка - 72% выкідаў радыёактыўнага вулкана ляжаць над нагамі беларусаў. Як напісаў Рыгор Барадулін:

**Пасля чарнобыльскай навалы**
**На Беларусь прыпала**
**Сем - з дзесяці –**
**Хірасім.**
**Хапіла ўсім...**

У сапраўднасці "хірасім" , калі на іх мераць, было значна больш. Ад ёднага ўдару і наступнага апраменьвання пацярпела ўсё насельніцтва Беларусі., бо вецер у першыя дні пасля аварыі нёс радыяцыю менавіта ў наш бок. Але гэта не ўсё гора. Магілёўшчына сваю "дозу" атрымала па той прычыне, што на яе "пасадзілі" чарнобыльскія воблакі, якія пагражалі Маскве. Ратуючы васьмімільённую сталіцу і Расію ад "мірнага атама", Беларусь тапілі ў радыяцыі.. Жыхароў Беларусі ніхто ў разлік не браў.

Першыя тры гады наступствы аварыі злачынна замоўчваліся ўладай. Нашы беларускія кіраўнікі горда адмовіліся ад саюзнай дапамогі, маўляў, самі справімся. Нават эканамічную кампенсацыю за ўрон ад Чарнобыля патрабаваць не сталі. Беларусь мела поўнае права дабівацца кампенсацыі і дапамогі міжнароднай супольнасці. Немагчыма зразумець, чаму гэта не зроблена.

Працяг на 3 старонцы

## БЕШАНКОВІЦКАЯ СУПОЛКА ТБМ ЗАРЭГІСТРАВАНА !

Бешанковіцкая раённая суполка грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны" нарэшце атрымала афіцыйны статус. 29 сакавіка, пасля дазволу міністра юстыцыі аб пастаноўцы на ўлік арганізацыйных структур партый і грамадскіх арганізацый па месцы жыхарства аднаго з членаў, прынята рашэнне райвыканкама аб пастаноўцы на ўлік Бешанковіцкай суполкі ТБМ з размяшчэннем юрыдычнага адраса па месцы жыхарства кіраўніка суполкі: Бешанковічы,вул.Маладзёжная, д.9, кв.21.

Наша суполка была створана ў сакавіку 1999 года. За гэты час шмат зроблена, утварылася і пашыраецца кола асоб, шчыра зацікаўленых у аднаўленні стаўлення да роднай мовы, як да нацыянальнай святыні, усебаковага яе развіцця, захавання і пашырэння ўжытку. Выдадзена кніга вершаў Алеся Бабаеда "Ля вогнішча", выдаецца інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь "Кардон". Члены суполкі праводзяць сустрэчы са школьнікамі, на якіх пад сцягам ТБМ выступаюць мясцовыя паэты: Алесь Бабаед, Георгій Станкевіч, Уладзімір Асокін. Вядзецца праца па выяўленню таленавітай творчай моладзі, аказваецца дапамога пачынаючым паэтам. Праводзіцца збор подпісаў за адкрыццё беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. Аформлена бясплатная падпіска на рэспубліканскую газету ТБМ "Наша слова" на другі квартал бягучага года на 17 школ раёна.

Павялічваецца колькасць сяброў суполкі. Далучайцеся да нас! Будзем працаваць разам.

*В. Гракун, кіраўнік суполкі ТБМ*

# Куды вядзеш ты нас, Ільіч ?

Дата 22 красавіка заўсёды выклікае ў мяне ўспаміны і роздум. Я нарадзіўся і вырас у час , калі сацыялістычная сістэма пераэжывала вялікі ўздым: савецкі народ атрымаў перамогу ў Вялікай Айчынай вайне, адкрыў сакрэт атамнай энергіі, вывеў першага чалавека ў космас. Я заўсёды ганарыўся гэтым. Глыбока ў сэрцы, як самае святое, жылі словы: Ленін, Савецкі Саюз, камунізм.

Шмат сцежак-дарожак давялося прайсці з той пары. Была вучоба ў сельгасакадэміі, праца ў калгасе. Я яшчэ верыў у ранейшыя ідэалы, але вера ўсё часцей натыкалася на развэжлівае: "Чаму?"

- Чаму сельская гаспадарка знаходзіцца ў такім заняпадзе?
- Чаму магутная савецкая дзяржава за столькі пасляваенных гадоў не змагла вырашыць харчовую праблему?
- Чаму ствараецца дэфіцыт асноўных спажывецкіх тавараў?
- Чаму, нарэшце, існуе дзве сістэмы размеркавання гэтых тавараў: для кіраўнікоў адна, а для ўсіх астатніх – другая?

Гэта потым прыйшло яснае разуменне ўсяго: рэвалюцыі, абсурднай ідэі камунізму, калі адна частка грамадства на касцях і крыві другой часткі будавала лепшую ў свеце дзяржаву. Дзяржава тая развалілася і ідэалы тыя развенчаныя, але чамусьці ў свядомасці людзей усё роўна ўсплывае:
- Пры сацыялізме жылі лепш. Так, гэта горкая праўда, што зараз мы жывём намнога горш, таму што ідзе Беларусь не да святла, не за цывілізаваным светам. Як гэта вядома з гісторыі. І як не хочацца паўтараць гістарычныя памылкі. Крыўдна за наш народ, які дае так лёгка сябе дурыць. Крыўдна за тых, што сканалі ў турмах і ссылках. Крыўдна за нас з вамі, а асабліва – за нашых дзяцей.

### ЛЯ ПОМНІКА

Куды вядзеш ты нас, Ільіч,
Да лобнага якога месца,
Дзе зноў нявінных кроў пральецца?
Ну, гавары ж, чаго маўчыш?

З рукой працягнутай стаіш,
Але, я бачу, не ў гуморы.
Што, разумееш наша гора?
Тады давай, кідай свой кліч!

Ад іх сыйшоў куды-б-нібудзь –
Так зблыталі твае ідэі!
Яны не людзі – ліхадзеі.
Бач, кветкі зноў табе нясуць.

Як і раней, яны цяпер
Тваёй аддадзеныя справе.
Ды толькі вось на шлях няправы
Іх цягне, вер мне ці не вер.

Ты сціплы быў, не ў прыклад ім,
Мог зразумець сваю правіну.
Яны ж развальваюць краіну
І дбаюць толькі аб сваім.

У іх ідэй – ніякі від,
Затое іх бароняць з віскам,
І з рынкавым сацыялізмам
Уладжваюць свой дабрабыт.

Вось так. Не апускай рукі, -
Яны ж са шляху могуць збіцца!
Што нам рабіць? – Ізноў вучыцца?
Ці даць пара па карку ім?

***Г. Станкевіч.***

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

# Ён адкрываў нам Беларусь

**Светлай памяці Міколы Ермаловіча**

*Вось ужо сорак дзён, як няма сярод нас гэтага незвычайнага чалавека – выдатнага гісторыка і пісьменніка, падзвіжніка і рупліўца, адданага сына Бацькаўшчыны Міколы Ермаловіча. Ён адкрываў нам Беларусь, яе мінулае і будучае, мужна і чэсна нёс слова Праўды, якога адны чакалі з нецярплівасцю і ўдзячнасцю, а другія намагаліся замаўчаць, прыцьміць.*

Трагічна загінуў Мікалай Іванавіч Ермаловіч, вядомы гісторык і літаратар. Памёр чалавек, які ўсё сваё жыццё аддаў Бацькаўшчыне і яе гісторыі, быў прапагандыстам гістарычных ведаў, выступаў у школах, а, галоўнае, пісаў свае творы, прасякнутыя глыбокай любоўю да роднай Беларусі. Памёр беларус. Сапраўдны Беларус: звонку – сціплы, талерантны, знутры – непахісны змагар, працавіты, руплівы, сумленны. Ён усё жыццё змагаўся з пакутніцкім лёсам. Бацька яго быў рэпрэсіраваны ў 1937 годзе. Сам Мікола меў слабае здароўе, пайшоў на пенсію па зроку. Яго не прызнавала ўлада, не прызнавала афіцыёзная навука. Сапраўдны вучоны не меў вучоных званняў. Аднак, не шкадуючы сябе , ён працаваў над гісторыяй роднай Беларусі. Асноўнай тэмай яго даследванняў быў старажытны перыяд гісторыі Беларусі. Ён абвяргаў погляды афіцыйнай савецкай гісторыяграфіі на сярэдневечча на Беларусі.Першы адмысловы зборнік артыкулаў "Па слядах аднаго міфа" быў падрыхтаваны ў 1980 годзе. Аднак ЦК КПБ не дазволіў яго надрукаваць. Толькі ў перыяд галоснасці ў 1989 годзе, з вялікімі цяжкасцямі, удалося надрукаваць гэту кнігу . Потым выйшла "Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд".

Шмат артыкулаў Міколы Ермаловіча прысвечана Багушэвічу, Купалу, Коласу, Каліноўскаму і іншым вядомым беларусам. Шмат напісаў ён пра нашу слаўную мінуўшчыну, ды не быў у пашане. У пашане былі тыя, што гнулі спіны і ганьбілі Беларусь ды ўсё беларускае. Аднак жыццё расставіла ўсё па месцах: Мікола Ермаловіч будзе з намі навечна. Яго жыццё стане прыкладам служэння Бацькаўшчыне, прыкладам пашаны да нашай гісторыі, да мовы і культуры.

# 14 гадоў ідзе Беларусь Чарнобыльскім шляхам...

*працяг, пачатак на першай старонцы*

Нейкую частку жыхароў адсялілі з забруджаных тэрыторый, а потым зноў пачалі нас супакойваць, што наступствы аварыі амаль ліквідаваны. Гульня ў маўчанку працягваецца. У забруджанай зоне, як ні ў чым ні бывала, працягваюць атрымліваць сельгаспрадукцыю, шчодра дзелячы яе на ўсю рэспубліку. Сёлета ў Бешанковіцкі раён завозілі сена з Брагінскага раёна, з калгаса, які размешчаны на граніцы 30-кіламетровай зоны (а касілі яны там і ў зоне ). Ці да радыяцыі, калі карміць кароў нечым?

У слых уразаецца горкая фраза,
Прадвесніца чорных бяссонных начэй:
- Ад радыяцыі мруць не адразу,
Ад галадухі - намнога хутчэй.

Раскручваецца махавік самападману і крывадушша. А важнейшыя пытанні захавання здароўя і жыцця людзей застаюцца нявырашанымі. Здаровых дзяцей у нас зараз толькі 10%. Народ робіцца ўсё больш хворым. Каго гэта хвалюе?

У Бешанковіцкі раён прыехала шмат "перасяленцаў". Некаторыя не прыжыліся, вярнуліся назад, засумаваўшы па родных мясцінах, суседзях і сваяках. Зараз з перасяленцаў засталося 389 чалавек. На жаль, некаторых ужо няма з намі, яны заўчасна пайшлі з жыцця. Хачу успомніць Ганну і Аляксандра Літвіненка, Мікалая Кур'яна, Ігара Мядзвецкага, Мікалая Шапецьку, Марыну Патапенка, Аляксея Бондара. Гэта далёка не поўны пералік, толькі тыя, каго я асабіста ведала. Няма гарантыі, што і да іншых не пагрукае ў дзверы бяда.

У раёне жыве 156 ліквідатараў аварыі. Ільгот у іх застаецца ўсё менш, але і тымі не ўсе карыстаюцца. Напрыклад, не ўсе атрымліваюць грашовую кампенсацыю за нявыкарыстаную (непрадастаўленую ) пуцёўку. А ўсяго толькі і трэба, каб атрымаць кампенсацыю: на пачатку года прайсці медкамісію, узяць даведку на санаторна-курортнае лячэнне і напісаць заяву на пуцёўку, а калі на працягу года пуцёўку не выдзелілі, тады трэба пісаць заяву на кампенсацыю.

Даруйце мне такі доўгі уступ. Я сама пераехала з Брагіна, і хоць я вярнулася ў мясціны, дзе нарадзілася і вырасла, але Чарнобыльскі попел засыпаў і мой лёс, і лёс маіх дзяцей.

Паэты думаюць крыху інакш, чым усе астатнія. Ім больш баліць. Яны ўспрымаюць навакольны свет і адлюстроўваюць яго без крывадушнасці і раўнадушша. Таму зараз вершы пра Чарнобыль і "чарнобыльцаў".

* * *

Шчасце там памерці, дзе ўзраслі –
За яго крывёй плацілі вечна.
Сёння стронцый ходзіць па зямлі,
Ён людзей зашмат перакалечыў.

Не шкадуе Чарнабыль жыцця
Тых, хто прыкіпеў к зямельцы сэрцам,
Паміраюць людзі, бы наўсцяж
Рвуцца міны й некуды падзецца.

Не знаходжу слоў, каб перадаць
Боль душы, дазвання адбалелай.
...З вейкі ціха коціцца сляза
Па "патэнцыяльна" ацалелых.

*Алесь Бабаед*



ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

Не вернеш, не вернеш мясцін тых знаёмых,
Не будзе спатканняў ля ціхай ракі.
Буслы не спяшаюцца болей дадому,
У жыце даўно не цвітуць васількі.

Не клічуць палеткі, лугі і дубровы,
Дзе ў травах духмяных так добра спачыць.
Дзяцінства ручай серабрыста-ружовы
З вадою атручанай полем імчыць.

Не свецяцца ў хатах забітыя вокны,
Душу непакоіць і боль, і журба.
Прыгожы пакінуты край і самотны,
Жалобна над рэчкаю плача вярба.

***Уладзімір Асокін***





**чарнобыльскі**
**ШЛЯХ 2000**



# 14 гадоў ідзе Беларусь Чарнобыльскім шляхам…

## ЗВАНЫ

Мікалаю Бондару

Зоры патухлі. Ціха. Нядзеля.
У вёсцы сапраўднае свята.
Толькі ўчора шпакі прыляцелі,
Хутка ўжо ў поле аратым.

Сонца настойліва будзіць зямельку:
Ранак, а так прыпякае.
Мне ж сёння, ў светлую гэту нядзельку,
Толькі званоў не хапае.

Тых, што анёлаў, пасланцаў нябёсаў,
У сэрцы да нас запрашалі,
Што ў бяздольных, пакрыўджаных лёсам
Радасць жыцця абуджалі.

Звон іхні плыў са званіц, бы ад Бога,
Неба жывіла ім душы.
Ен выганяў з кволых сэрцаў трывогу,
Страх, недавер'е і сцюжу.

Быў пахавальным ён і Велікодным,
Ды на зямлі Русі Белай
Просталюдзінам ці высакародным –
Быў ён усім зразумелым.

І для ратая, і для паэта
Поўніў ён светам абшары,
І, удыхаючы музыку гэту,
Ураз прасвятляліся твары.

Ці не таму, што няма сёння звонаў,
Змрок і бязвер'е пануюць?
Толькі тады зажывём па-другому,
Калі ўсё адбудуем!

***Г. Станкевіч***

## ГРАМАДЗЯНСКАЯ АБАРОНА

*Памятаеце казку пра пастушка, які, калі яму рабілася сумна аднаму ў полі, крычаў: "Ваўкі!"і цешыўся тым, што на крык збягаліся людзі з вёскі бараніць статак ад ваўкоў. Так ён рабіў не адзін раз, яголым крыкам перасталі верыць і, калі сапраўды прыйшлі ваўкі, - ніхто не пабег на крык, не абараніў. Я ўзгадваю гэту казку кожны раз, калі чую выццё сірэн, якія кожны месяц уключаюць, праводзячы так званую " праверку сістэм апавяшчэння і сігналізацыі грамадзянскай абароны". Пэўна такія праверкі патрэбны, спецыялістам відней. Але чаму яны маўчалі ў красавіку 1986 года, калі на Брагін, ад якога да пашкоджанага рэактара Чарнобыльскай атамнай станцыі кіламетраў сорак па прамой, як і на суседнія гарады і вёскі, абрынулася сотня Хірасім?! Чаму ні адзін з начальнікаў не адважыўся папярэдзіць ад небяспецы? Чаму людзі працягвалі корпацца на сваіх агародах, а дзеці - гулялі у пясочніцах, перасыпаючы ручкамі смяротную сумесь цэзія, стронцыя, плутонія і ўдыхаючы атручанае паветра? Чаму толькі праз тыдзень спачатку пачалі вывозіць калгасную жывёлу і толькі потым – дзяцей? Ведаю, няма каму задаваць гэтыя пытанні, няма вінаватых... Толькі трывожна выюць сірэны. Хто перажыў вайну, пэўна успамінае пад іх выццё бамбёжкі і абстрэлы. А ў мяне – свая вайна: Чарнобыль.*

Гудуць трывожныя гудкі,
Парвуць, здаецца, перапонку.
Хто ім аддаў загад такі –
Будзіць спакойную старонку?

Прывід ваеннага жыцця:
Ляцяць з крыжамі самалёты,
Фашысты ўсталі з небыцця,
Арэшнік косяць кулямёты.

Не, не пужайцеся, браткі,
Зусім не трэба хваляваццa:
То паважаныя дзядзькі
Рашылі патрэніравацца

Як ім на кнопкі націскаць,
Калі якое грымне ліха.
Звычайна ж іх і не відаць,
Сядзяць, паперы пішуць ціха.

Сядзелі ціха дзецюкі
Тады, калі гарэў Чарнобыль,
І з радыяцыяй шматкі
Ляцелі дзецям на галовы.

Ніхто не здолеў з іх сказаць,
Што трэба неяк бараніцца,
Не загараць і не араць,
Не піць з атручанай крыніцы.

А сёння зноў равуць гудкі,-
Аж пазляталі з дрэў вароны.
Няма спакою нам, браткі,
Ад грамадзянскай
"абароны".

***В. Гракун***



## З ХРОНІКІ БЯДЫ

...Перазвоньваліся начальнікі:
-Што чуваць?
Што казаць?
Што рабіць?
-Вы галоўнае там-без панікі.
Не надумайцеся трубіць...

На палях – трактары і людзі.
Пасяўною занята сяло...
-А што будзе, тое і будзе.
Толькі б панікі не было!

-Ходзяць чуткі...
-Спыніць рашуча!
-Кажуць фізікі...
-Абвяргаць!
І галоўнае- не накручваць
І залішне не думаць...маць!..

...Над загадамі і сакрэтамі,
Быццам зрэбныя ніткі бяды,
Працягнуліся між кабінетамі
Тэлефонныя правады.

А ўжо стома гняце свінцова.
А ўжо ў горле засохлым
пяршыць.
І падумаць бы, як не прамову,
А жыццё сваё завяршыць...

Трубка стала перагравацца,
Як гарматнае жарала:
-Што вы лезеце з радыяцыяй?!
Толькі б панікі не было!!!

***Генадзь Бураўкін***



Найпадобнейшая Еўфрасіння.

# ВЫГНАННЕ ПОЛАЦКІХ КНЯЗЁЎ У ВІЗАНТЫЮ, ГОД 1129.

Над Дзвіной – як чорны покрыў ранне.
Гора смокча сэрцы, як змяя.
З Полацка з'язджае на выгнанне
Уся вялікакняская сям'я.

Усьмавы пантофлік з прошвай сіняй
На назе дзявочае прамок.
Слухае манашка Ефрасіння
Бацькі пасівелага папрок:

"Ты бясплоднае абрала ложа,
Брат твой ад самоты занямог.
Без унукаў я. Хто нам паможа?"
Коратка яна сказала: "Бог".

Уздыхнуў. Ладдзю панесла плынню,
З далечы ўсе - як мурашы.
З ветрам даняслося: "Ефрасіння!
Прадыслава! Полацк беражы!"

Не ўстаюць з каленяў, плачуць людзі…
Шмыгнуў некуды з даносам віж…
Юная ігумення, хто ж будзе
Несці за цябе і гэты крыж?

Не, твая рашучасць не растае,
Мужнасць не патопіцца ў слязах…
Візантыя! Клетка залатая
Вольным птушкам – полацкім князям.

І гады, і жыцці, як атаву,
Косяць часу вострыя нажы,
А яна ўсё чуе: "Прадыслава!
Ефрасіня! Полацк зберажы!"

***Вольга Іпатава***

# АДКУЛЬ НАШ РОД?

Паводле кніг Уладзіміра Арлова, працяг.

## АСВЕТНІЦА ЕЎФРАСІННЯ

Сярод нашчадкаў Усяслава Чарадзея было нямала харобрых ваяроў і таленавітых палкаводцаў. Але найбольшую славу Беларусі прынеслі не яны, а унучка Чарадзея – Еўфрасіння.

«Нібы прамень сонечны прасвятліў зямлю Полацкую» – напісаў пра яе летапісец.

Дзевяцьсот гадоў таму назад у сына Усяслава Чарадзея Святаслава-Георгія нарадзілася дзяўчынка, якую назвалі старажытным імем Прадслава. Князёўна з маленства чула паданні пра свайго дзеда Чарадзея, пра Рагнеду ды іншых славутых продкаў. Пра іх апавядалі і запрошаныя бацькам настаўнікі – полацкія манахі, якія вучылі Прадславу чытаць і пісаць. Дзяўчынка палюбіла кнігі. Былі ў яе дзяцінстве і купаллі, і вясёлыя каляды, і карагоды. Але ў дванаццаць гадоў дзяўчынка з княжага роду – ужо нявеста. У Полацк зачасцілі сваты, слава аб прыгажосці і розуме Усяслававай унучкі разляцелася далёка. Бацькі хацелі аддаць яе за нейкага багатага валадара, але Прадслава выбрала іншы шлях. Яна, як некалі Рагнеда, стала манашкаю. Таемна ад бацькоў яна прыняла пострыг і імя Еўфрасіння, каб прысвяціць сваё жыццё духоўнаму ўдасканаленню. У Божай цьвярдыні Еўфрасіння змагла цалкам аддацца кнігам, чытала і перапісвала іх, што зрабіла яе адной з самых адукаваных жанчын таго часу. Ужо адно гэта было подзвігам. Еўфрасіння пісала і свае творы, перакладала з іншых моў. Яна хацела, каб у Полацкім княстве было як мага больш пісьменных людзей. Дзеля гэтага князёўна заснавала новыя манастыры, а пры іх адчыніла кніжныя майстэрні. Кнігі адтуль развозіліся па ўсёй дзяржаве і ў суседнія землі.

У адчыненых асветніцай школах дзеці навучаліся не толькі грамаце, але і замежным мовам, прыродазнаўству, медыцыне, рыторыцы і паэтыцы. Вялікая ўвага надавалася гісторыі. Вучні мусілі ведаць радавод полацкай дынастыі, ваенныя падзеі з мінуўшчыны княства і ўсяго ўсходняга славянства. Часта ўрокі вяла сама маці-ігумення.

Асветніца збірала вакол сябе таленавітых людзей. Невядомы адукаваны палачанін напісаў пра яе аповесць «Жыціе Еўфрасінні Полацкай»

У адным з заснаваных Еўфрасінняй манастыроў дойлід Іаан па яе просьбе за трыццаць тыдняў пабудаваў царкву казачнай прыгажосці. Гэта Спаса-Еўфрасіннеўская царква, якая і сёння стаіць у Полацку. Ігумення была замоўцаю знакамітага Полацкага крыжа і ацалелых да нашых дзён унікальных фрэсак. Крыж Еўфрасінні Полацкай – наш бясцэнны агульнанародны скарб. Беларусь шукае яго, каб вярнуць на Радзіму.

Еўфрасіння жыла ў жорсткі, крывавы час. Князі часта ваявалі паміж сабой. У адным з паходаў кіеўскаму князю ўдалося захапіць полацкіх князёў у палон. Разам з жонкамі і дзецьмі іх адправілі ў высылку ў Візантыю. Еўфрасіння засталася ў Полацку. Яна была своеасаблівым сцягам змагання палачанаў за незалежнасць. Хутка палачане скінулі кіеўскага стаўленніка, а князем абвясцілі брата Еўфрасінні Васільку.

Еўфрасіння шмат намаганняў прыкладала, каб прадухіліць княжаскія міжусобіцы, каб князі не варагавалі, а мацавалі крывіцкую дзяржаву.

На схіле жыцця Еўфрасіння здзейсніла паломніцтва ў Святую Зямлю. Яна шчыра малілася каля гроба Гасподня ў Іерусаліме. Там і завяршылася зямное жыццё асветніцы. Пазней усходнеславянскія манахі перавезлі яе мошчы ў Кіеўскую Пячорскую лаўру, дзе яны захоўваліся сем стагоддзяў. У 1910 годзе мошчы былі ўрачыста перавезены ў Полацк. Дваццатае стагоддзе прынесла нятленным астанкам новыя пакуты.

Палачане прызнавалі сваю асветніцу святой яшчэ восем стагоддзяў таму. З Полацка, які быў духоўным цэнтрам беларускіх земляў, шанаванне князёўны-ігуменні пашырылася па ўсёй Беларусі. Народная памяць зрабіла свой беспамылковы выбар. Еўфрасінню прызнае святою і праваслаўная і каталіцкая царква. Нябесная заступніца Беларусі дае духоўную падтрымку нам.Еўфрасіння высока ўзнеслася над сваёй эпохай. Бальшавікі замоўчвалі і ганьбілі асветніцу, пра яе не ўпаміналася ні ў падручніках па гісторыі, ні ў музейных экспазіцыях, ні ў энцыклапедыях. Але зорка Еўфрасінні ўсё ярчэй зззяе на небасхіле народнай памяці. Помнік славутай дачцэ Беларусі урачыста адкрыты ў Мінску ў скверы ўнутранага дворыка Белдзяржуніверсітэта напрыканцы снежня мінулага года. Усё больш гісторыкаў, пісьменнікаў, мастакоў асвятляюць імя Еўфрасінні. Прапануем увазе чытачоў верш нашай зямлячкі Вольгі Іпатавай, прысвечаны Еўфрасінні Полацкай.

# СОН - ТРАВА (прастрэл)



Прыгрэла сонейка, вызваліла пагоркі ад снегу і, як лясное дзіва, з'явіліся надзвычайнай прагажосці кветкі, якія батанікі называюць прастрэлам, а ўсе астатнія – сон-травой, сонам. Расце сон у светлых сасновых лясах, на ўзлесках і вырубках з пясчанай глебай. Гэта шматгадовая травяністая расліна.

Кветкі сон-травы буйныя, 3-4 сантыметры памер званочка, сіне-фіялетавага колеру, паніклыя, звонку пакрытыя густымі белымі валаскамі. Апушаны ўсе часткі расліны, гэта апушэнне ахоўвае і ад марозу, і ад залішняга сонца, і ад дажджу, і ад перасыхання. Прыкаранёвае лісце з'я'ляецца пазней за кветкі. Лісты глыбокарассечаныя, на доўгіх чаранках, утвараюць прыкаранёвую разетку.

Існуе павер'е, што чалавек , пажаваўшы карнявішча прастрэла, упадае ў глыбокі сон. І яно не беспадстаўнае, бо расліна гэта ядавітая. Толькі глухары любяць паласавацца сонам, выклёўваючы кветкі і маладое лісце. У народнай медыцыне выкарыстоўваецца як бактэрыцыдны, фунгіцыдны, супакойваючы і снатворны сродак.

Усё менш застаецца лілова-фіялетавых палян, усыпаных па вясне дзівоснымі званочкамі сону.Кветкі гэтыя такія безабаронныя перад чалавекам. Паблізу гарадоў іх ужо амаль не сустрэнеш. Калі мы вынішчым гэту прыгажосць – з чым застанемся? – Хіба што з асотам ды чартапалохам, якія нахабна лезуць з кожнай прыдарожнай канавы і умеюць бараніцца сваімі калючкамі.

---

*Гэта было...*

## З РАСКАЗАЎ МАЙГО БАЦЬКІ

### РАЗЫГРАЎ

Мой бацька – чалавек непітушчы. Як я памятаю з маленства, ён мог сяды-тады прыкласціся да чаркі, але бывала гэта зрэдку, толькі ў святочныя дні. За руль матацыкла, на якім ён ездзіў, калі працаваў інжынерам у калгасе, ён нават крыху выпіўшым ніколі, божа барані, не садзіўся.

Часта бацька падвозіў дадому трактарыста Аляксея, які не адказваўся выпіць, калі была такая магчымасць, а магчымасць здаралася даволі часта. Аляксей гаварыў крыху ў нос, цяжка было пазнаць: цьвярозы ён, або трохі на падпітку.

Аднойчы адвячоркам матацыкл ціха падкаціў да хаты, нікім не заўважаны. Аляксей зайшоў у хату і сваім не вельмі цьвярозым голасам звярнуўся да маці:

- Гаспадыня, ідзі, забірай свайго!
- А дзе ж ён?
- На вуліцы на матацыкле спіць!
- Ён жа не п'е, - маці спрабавала асэнсаваць навіну.
- Так атрымалася, ідзі забірай.

Маці падыйшла да матацыкла, пакратала бацьку, каб упэўніцца. Бацька сапраўды ляжаў і ціха хроп, не рэагуючы ні на што.

- А як жа вы даехалі, ты ж матацыкл ці водзіш?- спытала маці ў Аляксея.
- Ну, трохі я руляваў, трохі ён,- гугнявіў у адказ Аляксей.
- Што ж рабіць, як яго ў хату адвесці?
- Не ведаю, - Аляксей , хістаючыся, вёў сваё.

Тады маці знайшла выйсце. Яна падкаціла са двара тачку, бацьку паракулілі ў тачку і падкацілі да ганка. Далей было невядома што рабіць, але тут бацька не вытрымаў: засмяяўся і ўскочыў з тачкі зусім цьвярозы. Маці доўга абуралася:

- Навошта табе спатрэбілася так рабіць?
- Хацеў даведацца, як ты п'янага мужыка сустрэнеш. Вось мы і прыдумалі з Аляксеем праверыць...

***Г. Станкевіч***

"Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы ". № 9, красавік 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Алесь Бабаед, Георгій Станкевіч. Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла "Фонда імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна.